

Пралятары ўсіх краін, злучайцеся!


# БЮЛЯТЭНЬ САВЕТУ НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ БЕЛАРУСКАЙ САЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ САВЕЦКАЙ РЭСПУБЛІКІ

Выдаецца Інфармацыйна-Выдавецкім Бюро Кіраўніцтва Спраў СНК і Эканамічнай Нарады г. Менск, (Чырвонаармейская вул. № 3). = Падпісная плата на год 5 р. і на $^1/_2$ г. 2 р. 50 к.

VII-ы ГОД ВЫДАНЬНЯ

№ 3 (104) | 10 сакавіка 1931 г. | № 3 (104)




## ЗЬМЕСТ.





## Абежнік Народнага Камісарыяту Юстыцыі і Народнага Камісарыяту Фінансаў БССР.

### 10. Пра парадак спагнаньня адзінай дзяржаўнай пошліны натарыусамі і народнымі судзьдзямі, выконваючымі натарыяльныя дзеяньні.

*Усім натарыусам і народным судзьдзям, выконваючым натарыяльныя дзеяньні.*

У дадатак да абежніка НКЮ БССР за 27 верасьня 1930 г. № 41 „Пра спагнаньне адзінай дзяржаўнай пошліны“ (Бюл. СНК 1930 г. № 21, паст. 167) Народны Камісарыят Юстыцыі і Народны Камісарыят Фінансаў БССР прапануюць усім натарыусам і народным судзьдзям, выконваючым натарыяльныя функцыі, пры спагнаньні адзінай дзяржаўнай пошліны за дзеяньні, якія яны выконваюць, кіравацца наступнымі правіламі:

1. Дзяржаўныя ўстановы, грамадзкія арганізацыі і прадпрыемствы аграмаджанага сэктару ўваходзяць у першую катэгорыю платнікаў і адзінай дзяржаўнай пошліны за зробленыя для іх натарыяльныя дзеяньні не плацяць.

2. З астатніх катэгорый платнікаў адзіная дзяржаўная пошліна за натарыяльныя дзеяньні бярэцца паводле ставак, якія паказаны ў далучаным да гэтага абежніку пераліку (гл. дадатак 1). У гэтым пераліку ўстаноўлены стаўкі для двох катэгорый платнікаў: другой і трэцяй.

Другая катэгорыя платнікаў: рабочыя і служачыя і прыроўненыя да іх асобы (беспрацоўныя, вучні і дзяржаўныя пэнсіянэры); члены калектыўных гаспадарак і члены індывідуальных гаспадарак, абкладзеных адзіным сельскагаспадарчым падаткам не ў індывідуальным парадку (арт. 28 Палажэньня пра адзіны сельскагаспадарчы падатак); саматужнікі і іншыя асобы, калі яны не залічаны ў 3-ю катэгорыю.

Да 3-й катэгорыі платнікаў належаць: а) асобы, якія абкладзены адзіным сельскагаспадарчым падаткам у індывідуальным парадку, паводле арт. 28 Палажэньня пра адзіны сельскагаспадарчы падатак, і б) асобы, якія плацяць падаходны падатак паводле раскладу № 3 на падставе арт. 20 Палажэньня пра падаходны падатак для прыватных асоб—З. З. СССР 1929 г. № 46, арт. 482 (гл. дадатак 3 да гэтага абежніку).

3. Члены сем'яў, якія знаходзяцца на ўтрыманьні асоб, што належаць да 2 і 3 катэгорый платнікаў (арт. 2) плацяць пошліну паводле ставак адпаведных катэгорый асноўных платнікаў.

4. Калі пасьвядчаецца дакумэнт ці зьдзелка, якія падаюцца 2-мя старанамі і калі адна з гэтых старон вызвалена ад уплаты пошліны, то пошліну поўнасьцю аплачвае другая старана.

Калі абедзьве стораны належаць да розных катэгорый платнікаў, то пошліна бярэцца па вышэйшай стаўцы.

Калі стораны не пададуць довадаў належнасьці іх да другой катэгорыі платнікаў (напрыклад, селянін ня мае даведкі аб разьмеры

сельскагаспадарчага падатку, якім ён абкладзен), то пошліна бярэцца па стаўках, установленых для 3-й катэгорыі.

5. Сумай дакумэнту для вылічэньня разьмеру пошліны лічыцца:

а) па дагаворах аб устанаўленьні права забудоўкі—сума плацяжоў, якія прылічаюцца за ўвесь час дзеяньня дагавору;

б) па дагаворах адчужэньня і дарэньня будынкаў і права забудоўкі—страхавая альбо падатковая ацэнка, у залежнасьці ад таго, якая з гэтых ацэнак вышэй;

в) па дагаворах таварыства—сума складачнага альбо укладнага капіталу гатоўкай альбо у відзе маемасьці, асабовай працы і г. д.;

г) па дагаварох заставы будынкаў і права забудоўкі—сума, на якую выдадзена застаўное пасьведчаньне, ня лічачы процантаў;

д) па дагаворах пра мену будынкаў—паказаная ў акце каштоўнасьць той з абменьваемых маемасьцяй, якая мае большую вартасьць, але ня ніжэй падатковай альбо страхавой ацэнкі гэтай маемасьці.

6. Па астатніх дакумэнтах сумай дакумэнту лічыцца сума, якая аб'яўлена старанамі.

Калі паказаная ў гэтым артыкуле сума не аб'яўлена, але можа быць устаноўлена, то яна вызначаецца прыблізна натарыусам альбо народным судзьдзёй, які выконвае натарыяльныя дзеяньні, на падставе каштарысу, праектаў, ведамасьцяй за мінулыя гады і іншых дакумэнтаў, якія вытрабоўваюцца ад старон.

7. Калі ў дакумэнце сума вызначана: „ад —— да", то пошліна бярэцца з вышэйшай сумы.

8. Адзіная дзяржаўная пошліна падлічваецца і спаганяецца пры пасьведчаньні.

9. Дакумэнты па зьдзелках на няпэўную суму, якія былі зроблены да 1 кастрычніка 1930 г., г. зн. да часу набыцьця сілы Палажэньнем пра адзіную дзяржаўную пошліну, падлягаюць аплаце гэрбавым і натарыяльным зборам, а таксама надбаўкай у мясцовыя сродкі толькі па суме выкананьня да 1 кастрычніка 1930 г.

Растэрмінаваныя нядоімкі гэрбавага і натарыяльнага збораў падлягаюць спагнаньню са ўсіх платнікаў у агульным парадку.

10. Ад адзінай дзяржаўнай пошліны, устаноўленай за натарыяльныя дзеяньні, вызваляюцца:

а) натарыяльныя дзеяньні, што вытвараюцца паводле заяў асоб, якія вызвалены судом ад пошлін па судовай справе, калі яны просяць пасьведчыць дакумэнты і копіі для перадачы ў суд па справе, па якой суд вызваліў іх ад пошліны;

б) натарыяльныя дзеяньні па дакумэнтах, якія датычаць прыняцьця грамадзян на вайсковую службу і праходжаньня яе; гэтай льготай не карыстаюцца асобы, якія падлягаюць залічэньню ў тылавое апалчэньне, паводле арт. 28 закона пра абавязковую вайсковую службу (З. З. СССР 1930 г. № 40, арт. 424);

в) натарыяльныя дзеяньні па дакумэнтах, якія датычаць атрыманьня і спагнаньня заработнай платы і прыроўненых да яе плацяжоў, сродкаў на ўтрыманьне, пэнсій і дапамог ад органаў сацыяльнага забясьпечаньня і сацыяльнага страхаваньня;



г) пасьведчаньне даручэньняў вайскоўцаў кадравага радавога і малодшага начальніцкага складу тэрміновае службы на вядзеньне спраў у судовых і адміністрацыйных установах, а таксама даручэньняў гэтых самых асоб на атрыманьне заработнай платы і на атрыманьне грашовай, паштовай і пасылачнай карэспандэнцыі (паводле арт. 84-а Кодэксу льгот вайскоўцам—З. З. СССР 1930 г. № 23, арт. 253);

д) пасьведчаньне копій і дакумэнтаў, якія падаюцца вайскоўцамі кадравага радавога і малодшага начальніцкага складу тэрміновае службы ў дзяржаўныя ўстановы і грамадзкія арганізацыі (паводле арт. 84-б Кодэксу льгот вайскоўцам—З. З. СССР 1930 г. № 23, арт. 253);

е) натарыяльныя дзеяньні па дакумэнтах немаемаснага характару ў тых выключных выпадках, калі на падставе пададзеных дакумэнтаў натарыусам будзе прызнана, што заяўнік ня мае сродкаў на аплату гэтых дзеяньняў. Гэтая льгота можа давацца толькі платнікам другой катэгорыі.

Апроч пералічаных вышэй выпадкаў адзіная дзяржаўная пошліна за натарыяльныя дзеяньні не павінна спаганяцца з асоб і дакумэнтаў, аб вызваленьні якіх ад пошліны будзе выдадзена спэцыяльная пастанова НК Фінансаў БССР.

11. Пошліна ўплачваецца грашыма, маркамі ўстаноўленага ўзору альбо мяшаным спосабам, г. зн., часткаю грашыма і часткаю маркамі. Грошы ўносяцца стараной у дэпазыт натарыуса альбо выконваючага натарыяльныя дзеяньні нарсудзьдзі, а квіток падаецца натарыусу, або судзьдзі.

Пры вылічэньні пошліны сума ў капейках акругляецца да поўных дзесяткаў капеяк: сума менш 5 кап. з разьліку выключаецца, а сума 5 кап і больш прымаецца за 10 кап.

12. Уплочаная пошліна назад не зварочваецца.

13. Калі сьведчыцца вернасьць перакладу з аднэй мовы на другую, то пошліна бярэцца толькі з платнікаў другой і трэцяй катэгорыі па стаўках, устаноўленых п. „м“ арт. 1 пераліку ставак для засьведчаньня вернасьці копій і выпісаў.

Калі самы пераклад робіцца натарыусам альбо судзьдзёй, то за работу па перакладу, як за тэхнічную працу, бярэцца збор паводле далучанай да гэтага таксы (гл. дадатак 2 да гэтага абежніку). Паводле тэй-жа таксы аплачваецца таксама праца спэцыялістаў-мовазнаўцаў, калі ім даручаецца работа па перэкладу для пасьведчаньня яго ў натарыяльным парадку.

14. Правілы спагнаньня адзінай пошліны за натарыяльныя дзеяньні, якія выконваюцца сельскімі, местачковымі і гарадзкімі саветамі, устаноўлена ў інструкцыі НКЮ і НКФ за 30/XI-1930 г. „Пра аплату натарыяльных дзеяньняў і тэхнічных паслуг сельскіх, местачковых і гарадзкіх саветаў адзінай дзяржаўнай пошлінай“. (Бюл. СНК БССР 1930 г., № 25, паст. 205).

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі БССР **Міхайлаў.**
Нам. Народнага Камісара Фінансаў БССР **Бунін.**

1 сакавіка 1931 г.
№ 11.

Дадатак 1.

## Выпіс з пераліку

**ставак адзінай дзяржаўнай пошліны для платнікаў другой і трэцяй катэгорыі (грамадзян і прыватных юрыдычных асоб).**

| Назва дзеяньняў і дакумэнтаў, за якія спаганяецца пошліна. | Катэґорыі платнікаў | | | | Парадак выплаты |
|---|---|---|---|---|---|
| | 2 | | 3 | | |
| | Разьмер стаўкі | | | | |
| | У руб. і кап. (звычайная) | У %% да сумы дакумэнту (прапарц.) | У руб. і кап. (звычайная) | У %% да сумы дакумэнту (прапарц.) | |
| 1. За натарыяльныя дзеяньні, якія выконваюць натарыяльныя канторы і іншыя органы, што іх заменяюць, апроч сельскіх саветаў: | | | | | |
| а) за натарыяльнае пасьведчаньне дагавораў пра ўстанаўленьне права забудоўкі . . . . . | — | 0,2 | — | 0,5 | Пры пасьведчаньн |
| б) за натарыяльнае пасьведчаньне дагавораў адчужэньня будынкаў і права забудоўкі і дагавораў таварыства . . . | — | 2,5 але ня менш 15 р. | — | 3,0 але ня менш 25 р. | " |
| в) за натарыяльнае пасьведчаньне дагавораў заставы, якія робяцца для забясьпечаньня патрабаваньняў, якія грунтуюцца на дагаворы . . . . | — | 1,0 | — | 2,0 | " |
| г) за натарыяльнае пасьведчаньне дагавораў заставы права забудоўкі для забясьпечаньня пазычак на патрэбы будаўніцтва . . . . . . | — | 0,5 | — | 1,0 | " |
| д) за натарыяльнае пасьведчаньне тэстамэнтаў, пасрэдніцкіх запісаў, дагавораў падзелу, дагавораў пра няўстойку, дагавораў парукі і дагавораў, якія не належаць ацэнцы . . . . . . | 5 р. | — | 10 р. | — | " |

| Назва дзеяньняў і дакумэнтаў, за якія спаганяецца пошліна | Катэгоры платнікаў 2. Разьмер стаўкі: У руб. і кап. (звычайная) | Катэгоры платнікаў 2. Разьмер стаўкі: У %% да сумы дакумэнту (прапарц.) | Катэгоры платнікаў 3. Разьмер стаўкі: У руб. і кап. (звычайная) | Катэгоры платнікаў 3. Разьмер стаўкі: У %% да сумы дакумэнту (прапарц.) | Парадак выплаты |
|---|---|---|---|---|---|
| е) за натарыяльнае пасьведчаньне дагавору пра перадачу правоў і абавязкаў па дагавору . | Палова стаўкі, якая спаганяецца за натарыяльнае пасьведчаньне адпаведнага дагавору | | | | Пры пасьведчаньні. |
| ж) за натарыяльнае пасьведчаньне іншых дагавораў . . . . . . | — | — | — | 2,0 | " |
| з) за натарыяльнае пасьведчаньне даверанасьцяй: | | | | | |
| 1) на кіраўніцтва маемасьцю, апроч маемасьці працоўнага сялянскага двара . . . . . | 10 р | — | 15 р. | — | " |
| 2) на кіраўніцтва маемасьцю працоўнага сялянскага двара . . . | 1 р. | — | — | — | " |
| 3) іншых даверанасьцяй . . . . . . | 2 р. | — | 3 р. | — | " |
| і) . . . . . . . | | | | | |
| к) за прыняцьце да пратэсту вэксалёў, варантаў і выдачу пасьведчаньня пра неплацёж па чэках . | — | — | — | 0,2 але ня менш 3 р. | Пры прыняцьці да пратэсту ці выдачы пасьведчаньня |
| л) за складаньне марскога пратэсту . . . | — | — | 25 р. | — | Пры складаньні пратэсту |
| м) за засьведчаньне вернасьці копій і выпісаў (са старонкі звычайнага фармату). . . . . . . | 50 к. | — | 2 р. | — | Пры засьведчаньні |
| н) за засьведчаньне уласнаручнага подпісу (за кожны подпіс) . . . . | 25 к. | — | 2 р. | — | Пры засьведчаньні подпісу |
| о) за перадачу праз натарыуса заяў ад аднае асобы другой . . . . | 3 р. | — | 5 р. | — | Пры падачы заявы натарыусу |

| Назва дзеяньняў і дакумэнтаў, за якія спаганяецца пошліна | Катэгорыі платнікаў | | | | Парадак выплаты |
|---|---|---|---|---|---|
| | 2 | | 3 | | |
| | Разьмер стаўкі | | | | |
| | У руб. і кап. (звычайная) | У %% да сумы дакумэнту (прапарц.) | У руб. і кап. (звычайная) | У %% да сумы дакумэнту (прапарц.) | |
| п) за выдачу засьведчаньняў, якія пацьвярджаюць права спадчыны: | | | | | |
| 1) на суму ад 100 р. за 1.000 р. . . . . | 3 р. | — | 15 р. | — | Пры звароце ці падачы заявы пра выдачу засьведчаньня |
| 2) на суму больш 1.000 руб. . . . | 5 р. | — | 25 р. | — | „ |
| р) за выдачу розных натарыяльных пасьведчаньняў і засьведчаньняў, апроч паказаных у пункце „п" . . . . . | 2 р. | — | 3 р. | — | „ |
| 2. За натарыяльныя дзеяньні, якія выконваюць сельскія саветы: | | | | | |
| а) за натарыяльнае пасьведчаньне угод паміж прыватнымі асобамі . . | — | 0,25, але ня менш 1 р. | — | 2,0, але ня менш 1 р. | Пры пасьведчаньні |
| б) за натарыяльнае пасьведчаньне дагавораў парукі, дагавораў, якія не належаць ацэнцы і тэстамэнтаў. . . . . | 1 р. | — | 2 р. | — | „ |
| в) за учыненьне выканаўчых надпісаў . . . | — | 0,15, але ня менш 1 р. | — | 0,5, але ня менш 1 р. | Пры ўчыненьні надпісаў |
| г) за натарыяльнае пасьведчаньне ўласнаручнага подпісу (за кожны подпіс) . . . . . | 15 к. | — | 2 р. | — | Пры пасьведчаньні подпісу |
| д) за засьведчаньне вернасьці копій і выпісаў (за старонку звычайнага фармату). . . . . . | 50 к. | — | 2 р. | — | Пры засьведчань |

| Назва дзеяньняў і дакумэнтаў, за якія спаганяецца пошліна | Катэгорыі платнікаў: 2 — Разьмер стаўкі: У руб. і кап. (звычайная) | 2 — У %% да сумы дакумэнту (прапарц.) | 3 — У руб. і кап. (звычайная) | 3 — У %% да сумы дакумэнту (прапарц.) | Парадак выплаты |
|---|---|---|---|---|---|
| е) за натарыяльнае пасьведчаньне дагавораў пра перадачу правоў і абавязкаў па дагавору . | Палова стаўкі, якая спаганяецца за натарыяльнае пасьведчаньне адпаведнага дагавору | | | | Пры пасьведчаньні |
| ж) за натарыяльнае пасьведчаньне даверанасьцяй . . . . . . | Па стаўках, устаноўленых у пункце „з" арт. 1 гэтага пераліку | | | | „ |
| 3. За складаньне натарыяльнымі органамі, якія іх замяняюць: | | | | | |
| а) праектаў угод і доўгавых дакумэнтаў . . . | 5 р. | — | 10 р. | — | Пры ўчыненьні |
| б) праектаў даверанасьцяй . . . . . | 50 к. | — | 3 р. | — | „ |
| в) праектаў тэстамэнтаў | 3 р. | — | 15 р. | — | „ |
| 4. За перапіску натарыяльнымі органамі, якія іх замяняюць, дакумэнтаў (за кожную старонку) . | 50 к. | — | 1 р. | — | „ |

Дадатак 2.

## Такса аплаты працы па перакладу актаў, дакумэнтаў і іншых папер, падаваемых для натарыяльнага пасьведчаньня.

§ 1. За пераклад актаў, дакумэнтаў і іншых папер на адну з дзяржаўных моваў БССР з мясцовых моваў, дзе робіцца пераклад дакумэнтаў:

а) з дакумэнтаў немаемаснага характару бярэцца 50 кап. за старонку;

б) з дакумэнтаў маемаснага характару і даверанасьцяй бярэцца 1 р. 50 кап за старонку.

§ 2. За пераклад актаў, дакумэнтаў і іншых папер на адну з дзяржаўных моваў БССР з ангельскай, францускай і нямецкай моваў:

а) з дакумэнтаў немаемаснага характару бярэцца 1 руб. за старонку і

б) з дакумэнтаў маемаснага характару і даверанасьцяй 2 руб. за старонку.

§ 3. За пераклад актаў, дакумэнтаў і іншых папер на адну з дзяржаўных моваў БССР з іншых. апроч паказаных у папярэднім артыкуле, чужаземных моваў:

а) з дакумэнтаў немаемаснага характару бярэцца 3 руб. за старонку;

б) з дакумэнтаў маемаснага характару і даверанасьцяй—4 руб. за старонку.

## Пастанова Народнага Камісарыяту Фінансаў БССР.

### 11. Пра разьмеркаваньне паселішчаў па клясах для спагнаньня зямельнай рэнты.

На падставе арт. 4 правіл спагнаньня зямельнай рэнты зацьверджаных ЦВК і СНК СССР 23/XI-1930 г. (З. З. СССР 1930 г. № 58, паст. 612), Народны Камісарыят Фінансаў БССР, па ўзгадненьні з Вышэйшым Саветам Народнай Гаспадаркі БССР і Народным Камісарыятам Гандлю БССР, пастанаўляе:

1. Устанавіць наступнае разьмеркаваньне паселішчаў на клясы па спагнаньні зямельнай рэнты:

IX кляса: г. Менск.

VIII кляса: г. г.Віцебск і Гомель.

VI кляса: г. г. Бабруйск і Магілёў.

V кляса: г. г. Барысаў, Ворша і Полацк.

IV кляса: г. г. Слуцак, Рэчыца і Мазыр.

III кляса: г.г. Жлобін, Рагачоў, Шклоў, Горкі, Крычаў, Мсьціслаў.

II. кляса: гарады і мястэчкі—Асіпавічы, Гарадок, Брагін, Добруш, Койданаў, Чэрвень, Быхаў, Клімавічы, Калінкавічы, Пятрыкоў, Дуброўна, Лепель, Ветка.

I кляса: іншыя гарадзкія паселішчы і сельскія мясцовасьці.

2. Гэтую пастанову ажыцьцявіць з I/X- 1930 г.

Народны Камісарыят Фінансаў БССР—**Л. Бунін.**
**Айзінсон.**

28 лютага 1931 г.

## Загады па Вышэйшаму Савету Народнай Гаспадаркі БССР.

### 12. Пра спыненьне работы па выяўленьні пераюраў і недабораў па перавозках, адбыўшыхся да 1-га жніўня 1930 г.

У адпаведнасьці з пастановай СНК СССР за 13 лістапада 1930 г. № 631 і загадамі ВСНГ СССР за 9 кастрычніка 1930 г. №2115 і за 11 сьнежня 1930 г. № 2391, загадваю ўсім гаспадарчым органам, падпарадкаваным ВСНГ БССР:

1. Спыніць работы па выяўленьні перабораў і недабораў па перавозках, якія адбыліся да 1-га жніўня 1930 г.

2. У адносінах пратэнзій, узьнікшых з перавозак, якія адбыліся пасьля 1-га жніўня 1930 г., для спрашчэньня ўзаемных разрахункаў з чыгункамі, кіравацца наступным:

а) чыгуначныя накладныя з агульным падрахункам правозных плацяжоў менш 100 руб.—не правяраць;

б) пратэнзіі аб пераборах на суму менш 10 руб. па асобнай накладной не прад'яўляць, за выключэньнем выпадкаў сыстэматычных пераборуў;

в) па масавых малацэнных грузах з падрахункам правозных плацяжоў менш 100 руб. па накладной праверку зрабіць толькі на выбарку.

Старшыня Вышэйшага Савету Народнай Гаспадаркі БССР **Р. Грысевіч.**

Кіраўнік Спраў ВСНГ БССР **Ізакаў.**

4 студзеня 1931 г.

Копія.

**13. Пра перадачу Ўсесаюзнаму Трэсту „Дзяржмэтр“ усяе справы па рамонту вымернікаў на тэрыторыі БССР.**

На падставе пастановы НК РСІ БССР за 22/II-1929 г. і пастановы ЭКАНА БССР за 18/II-1931 г. загадваю:

1. Усю справу па рамонту вымернікаў на тэрыторыі БССР перадаць Усесаюзнаму Трэсту „Дзяржмэтр“.

2. Усе памяшканьні, абсталяваньне, інвэнтар і інш. маемасьць майстэрняў мясцовай прамысловасьці па рамонту мерак і вагаў, якія ў свой час былі прыняты ад Беларускай Палаты Мерак і Вагаў—перадаць Трэсту „Дзяржмэтр“.

3. Перадачу, паказаную ў п. 2, правесьці на ўмовах, на якіх ў свой час гэта маемасьць была атрымана ад Палаты Мерак і Вагаў.

4. Перадачы падлягае маемасьць, паказаная ў п. 2, калі яна зьвязана з вытворчасьцю і рамонтам вымернікаў і вагаў.

5. Гэты загад ажыцьцявіць у дэкадны тэрмін.

Нам. Старшыні Вышэйшага Савету Народнае Гаспадаркі БССР **Васкабойнікаў.**

Кіраўнік Спраў ВСНГ БССР **Ільлянкоў.**

27 лютага 1931 г.
№ 74.

## Пастанова Народнага Камісарыяту Працы і Народнага Камісарыяту Снабжэньня БССР.

**14. Аб прэм'яваньні лепшых ударнікаў рабочых і возчыкаў, занятых на дарожным будаўніцтве БССР у 1931 г.**

1. Для выкананьня і перавыкананьня будаўнічых плянаў, своечасовай нарыхтоўкі каменьняў, поўнага выкананьня норм выпрацоўкі на

падставе сацспаборніцтва і ўдарніцтва, забясьпечаньня якасных і колькасных паказчыкаў будаўніцтва, найбольш рацыянальнага скарыстаньня машын і матарыялаў — устанаўліваецца прэм'яваньне прамтаварамі лепшых ударнікаў рабочых і возчыкаў, занятых на дарожным будаўніцтве ў 1931 г., выходзячы з наступных асноўных паказчыкаў:

а) эканомнае выдаткаваньне матарыялаў на адзінку выпрацоўкі, ці заданьняў паводле плянаў;

б) зьмяншэньне браку;

в) зьніжэньне прастояў;

г) зьнішчэньне прагулаў;

д) палепшаньне якасьці працы і прадукцыі;

е) выкананьне заданьняў раней тэрміну пры палепшаньні якасьці працы або прадукцыі.

2. Прэмія выдаецца паасобна лепшым ударнікам-рабочым, брыгадам з рабочых і калгасьнікаў, непасрэдна занятым на дарожным будаўніцтве і на дапаможных работах, па вывазцы каменьня, пяску, гравія і г. д. пры ўмове, калі яны працавалі на данай рабоце ня менш аднаго месяца і выканалі ня менш 100 проц. нормы, або заданьня.

3. Прэм'яваньне не распаўсюджваецца на кулацка-заможную частку і лішэнцаў, якія прыцягнуты да работ у парадку працгужпавіннасьці, а таксама тылаапалчэнцаў, скарыстоўваемых на работах.

4. Для вызначэньня разьмеру прэмій у аснову кладзецца наступная шкала:

| | Пры рабоце на працягу: 1 мес. | 2 мес. | 3 мес. | 4 мес. |
|---|---|---|---|---|
| | (У процантах) | | | |
| а) пешым рабочым: | | | | |
| Выкананьне нормы ня менш 100 проц. | 8 | 9 | 10 | 12 |
| „ „ „ „ 110 „ | 9 | 10 | 11 | 13 |
| „ „ „ „ 120 „ | 10 | 11 | 12 | 14 |
| б) возчыкам з коньмі: | | | | |
| Выкананьне нормы ня менш 100 проц. | 4 | 5 | 6 | 7 |
| „ „ „ „ 110 „ | 5 | 6 | 7 | 8 |
| „ „ „ „ 120 „ | 6 | 7 | 8 | 9 |

Увага. Вылічэньне разьмеру прэмій у процантах праводзіцца з заробку ў месяц, прычым прэмія выдаецца ў лік зарплаты.

5. У залежнасьці ад мясцовых умоў начальнікі работ, па ўзгадненьні з мясцовымі прафсаюзнымі органамі і органамі НК Працы, маюць права ў межах адпушчанага фонду прэм'яваньня, зьмяняць разьмеры прэмій з мэтай устанаўленьня павялічанага разьмеру для асобна-важных вучасткаў работ за лік агульных фондаў без павялічэньня іх.

6. Пры пераводзе адміністрацыяй рабочага з аднэй працы на другую ў межах аднаго кіраўніцтва работ, прэмія падлічваецца за ўвесь тэрмін яго бесьперапыннай работы.

7. Агульная колькасьць тавараў, якія павінны быць выдадзены ў парадку прэм'яваньня (фонд прэм'яваньня), вызначаецца для кожнай дыстанцыі паасобку, у адпаведнасьці з вытворчай праграмай.

Начальнікі работ 90 проц. атрыманага фонду прэм'яваньня разьмяркоўваюць па ўзгадненьні з мясцовымі прафэсійнымі арганізацыямі і органамі НК Працы па паасобных дыстанцыях у залежнасьці ад вытворчага заданьня.

10 проц. фонду застаецца ў рэзэрве начальніка работ на выпадак неабходнасьці павялічэньня прэмій для асобных дыстанцый.

Начальнікі работ скарыстоўваюць фонд прэм'яваньня выключна ў адпаведнасьці з яго прызначэньнем і адказваюць за правільнае яго скарыстаньне.

8. Вызначэньне прэмій і выдача іх праводзіцца камісіямі пры начальніках работ у складзе прадстаўнікоў ад адміністрацыі, мясцовага органу прафсаюзу і рабочых па выбару вытворчых нарад.

9. Уся работа па прэм'яваньні павінна праходзіць пад шырокім грамадзкім кантролем, праз агульныя сходы і вытворчыя нарады, з апублікаваньнем у мясцовым друку прозьвішч рабочых, якія прэміруюцца за асабліва значныя дасягненьні.

10. Прэм'яваньне паводле гэтай пастановы ўводзіцца ў дзейнасьць з 1 сакавіка 1931 г. за лік фондаў снабжэньня шляхавага будаўніцтва, якія вызначаюцца НК Снабжэньня БССР па лініі Белкапсаюзу на кожны квартал.

Нам. Народнага Камісара Працы БССР **Д. Захарава.**

Народны Камісар Снабжэньня БССР **Розін.**

Начальнік Галоўнага Кіраўніцтва шосаў, грунтавых дарог і аўтамабільнага транспарту БССР **Яцкевіч.**

Узгоднена з ЦСПСБ — **С. Каменштэйн.**

26 лютага 1931 г.
№ 9-77.

## Пастанова Рэспубліканскага Савету Сацыяльнага Страхаваньня пры НКП БССР.

### 15. Пра нормы дапамог па часовай непрацаздольнасьці і дадатковых відах.

У сувязі з ліквідацыяй акруг і для скасаваньня пастановы Рэспубліканскага Савету Сацыяльнага Страхаваньня пры НКП БССР за 30/XII-1929 г. (Бюл. СНК БССР 1930 г. № 1), Рэспубліканскі Савет Сацыяльнага Страхаваньня пры НКП БССР пастанаўляе:

1. Устанавіць наступныя нормы дапамог па часовай непрацаздольнасьці і дадатковых відах:

а) максымальны разьмер дапамогі па часовай непрацаздольнасьці па ўсёй БССР—150 руб.;

б) па дадатковых відах:

### 4 пояс.

Менск, Віцебск, Гомель і іх рабочыя прыгарады:

На догляд—24 р.
" кармленьне—6 р.
" пахаваньне асоб старэй 10 год—27 р.
" пахаваньне асоб да 10 год—13 р. 50 к.

### 5 пояс.

Магілеў, Ворша, Полацак, Бабруйск, Мазыр, Барысаў, Добруш, Рэчыца і іх рабочыя прыгарады:

На догляд—22 р.
" кармленьне—5 р. 50 к.
" пахаваньне асоб старэй 10 год—25 р.
" пахаваньне асоб да 10 год—12 р. 50 к.

5-ты пояс са зьніжэньнем на 15 проц.

Усе раённыя цэнтры, апроч тых, якія праходзяць па 5-му поясу:

На догляд—18 р 76 к.
" кармленьне—4 р. 70 к.
" пахаваньне асоб старэй 10 год—21 р. 25 к.
" пахаваньне асоб да 10 год—10 р. 60 кап.

5-ты пояс са зьніжэньнем на 33 проц.

Усе іншыя мясцовасьці, якія не праходзяць па паказаных вышэй паясох:

На догляд—14 р. 65 к.
" кармленьне—3 р. 65 к.
" пахаваньне асоб старэй 10 год—16 р. 65 к.
" пахаваньне асоб да 10 год—10 р.

2. Гэта пастанова ўводзіцца з 1 сакавіка 1931 г.

Старшыня Рэспубліканскага Савету Сацыяльнага Страхаваньня пры НКП БССР **П. Саламонаў.**

Адказны Сакратар **З. Ханін.**

6 сакавіка 1931 г.



Адказны Рэдактар **С. Лодысеў.**

**Выданьне Кіраўніцтва Спраў СНК і Эканамічнай Нарады БССР.**

Галоўлітбел № 294. Друк. Кір. Спраў СНК і ЭКАНА БССР. Зак. № 194. Тыр. 5500 экз.

